**BIELARUS**

**Byelorussian Newspaper in the Free World**
**Published monthly by**
**BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.**
**Subscription $ 12.00 yearly.**

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
**Выходзіць** месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
**Выпіска зь перасылкаю** — 12.00 дал. на год.
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**

## ДАМАГАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Ад Рэдакцыі:** Газэта „Ніва", орган Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы, у нумары з 23 сьнежня 1984 г., зьмясьціла тэкст выступленьня прадстаўніка беларускае меншыні др. Аляксандра Баршчэўскага ў Польскай Нацыянальнай Радзе Культуры. Пленарнае паседжаньне НРК адбылося 12 лістапада летась. Ніжэй зьмяшчаем некаторыя выказваньні др. Баршчэўскага.

***

Беларускае насельніцтва ў Польшчы налічвае каля 250.000 чалавек і канцэнтруецца галоўным чынам на тэрыторыі былых паветаў Сакольскага, Дуброўскага, Беластоцкага, Гайнаўскага, Бельска-Падляскага і Сямяціцкага.

Зразумела, значная колькасьць Беларусаў у Беластоку, Варшаве, Гданьску і многіх іншых рэгіёнах Польшчы.

Трэба сказаць, што стан няведаў аб жыцьці і ўвогуле аб існаваньні Беларусаў у нашай краіне сярод польскага насельніцтва вельмі высокі. Ня толькі ў далёкіх заходніх ці паўдзённых ваяводзтвах, але часта ў заходніх частках Беластоцкага ваяводзтва спатыкаем Палякаў, якія, даведаўшыся, што маюць перад сабою Беларуса, глыбока перакананыя, што прыехаў ён з савецкай Беларусі.

Варта паставіць пытаньне: чым тлумачыцца такі стан рэчаў?

(...) Тысячы экспанатаў зь беларускіх вёсак павандравалі ў розныя музэі краіны, але нідзе няма пры іх арыгінальных назваў. Пазбаўляючы беларускія экспанаты беларускіх назваў, адбіраем і значную дозу аўтэнтызму й праўды.

У сувязі з элемэнтарнымі няведамі аб нацыянальных меншасьцях, родзяцца розныя міфы і непаразуменьні. Часта тыя, хто пачуў нейкую пляткарскую вестку аб Беларусах, сьхільныя бачыць у нас нешта накшталт Баскаў у Гішпаніі ці шыітаў і Ліване. Сустракаюцца і такія, якія прыпісваюць нам імкненьне да адлучэньня ад Народнай Польшчы, прылучэньня да БССР, або ўтварэньня незалежнай рэспублікі. (...)

Думаю, што працэс зьмен у гэтай справе мог-бы запачаткаваць агульнапольскі часапіс, прысьвечаны жыцьцю нацыянальных меншасьцяў у Польшчы. У даваеннай Польшчы было некалькі такіх пэрыёдыкаў, чаму сёньня няма ніводнага — невядома.

(...) Хачу падкрэсьліць, што галоўны наш пастулят зводзіцца да таго, каб беларускія харавыя калектывы былі трактаваныя ня лепш і ня горш, чым падобныя хоры, якія дзейнічаюць у польскіх асяродзьдзях.

Другая праблема — школьніцтва. Яшчэ ня так даўно каля дванаццаці тысяч беларускіх дзяцей вывучалі ў школах родную мову. У даны момант лік гэты паменшыўся ў тры разы. Ёсьць розныя прычыны такога стану рэчаў. Адной з найважнейшых быў уведзены некалькі гадоў таму назад прынцып падпісваньня бацькамі дзіцяці, якое хацела вывучаць беларускую мову, спэцыяльных заяваў-дэклярацый. Беларускі селянін на працягу стагодзьдзяў быў біты пры дапамозе розных заяваў, дакумэнтаў, пісулек, таму баіцца іх, як агню, да сёньня. Дык нічога дзіўнага, што пасьля ўвядзеньня гэтага прынцыпу пачаў радыкальна зьніжацца колькасны стан вучняў на беларускіх занятках у школах. (...)

Справа трэцяя датычыць беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. Ужо болей як дваццаць пяць год існуе пры Галоўным Праўленьні Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства літаратурнае аб'яднаньне „Белавежа". да нясумненных дасягненьняў трэба залічыць тое, што ўжо пяць „белавежцаў" прынятыя ў рады Саюзу Польскіх Пісьменьнікаў. Наша мэта заключаецца ў тым, каб лік членаў давесьці да шасьці-сямі асобаў і стварыць першы ў гісторыі аддзел Саюзу Польскіх Пісьменьнікаў у Беластоку, якія пішуць пабеларуску. Паважнай прычынай, якая затармазіла ў апошнім часе творчасьць „белавежцаў", сталася ліквідацыя ганарараў для беларускіх аўтараў. Зразумела, што гэты крок трактуецца „белавежцамі" як праява дыскрымінацыі і цяжка гэта назваць падругому. (...)

Справа чацьвертая зьвязана зь Беларускім этнаграфічным музэем. Многа гадоў таму назад, дзякуючы энтузіязму беларускіх дзеячоў, была створаная музэйная ўстанова ў Белавежы. Тысячы турыстаў наведвалі яе і пакінулі прыхільныя ацэнкі. Пазьней музэй быў ліквідаваны. У апошніх месяцах ГП БГКТ атрымала згоду на рэстаўрацыю, і па сутнасьці на будову музэю помнікаў беларускай матар'яльнай культуры. Аднак сродкі, якімі мы распараджаемся, вельмі сьціплыя.




Канстытуцыя сучаснае Польшчы ня згадвае пра нацыянальныя мяншыні, якія жывуць у дзяржаве (Беларусы, Украінцы, Літоўцы ды іншыя), польскія ўлады не займаюцца зьбіраньнем статыстычных дадзеных пра жыхароў няпольскае нацыянальнасьці. А ў 1976 г. на пленуме ЦК кампартыі Польшчы была прынятая адмысловая рэзалюцыя аб тым, што Польшча павінна разглядацца як „дзяржава этнічна аднародная". Каталіцкая Царква Польшчы падзяляе гэты пагляд польскіх камуністаў на нацыянальныя мяншыні. Няведамы нам беларускі мастак з Польшчы трапна пракамэнтаваў вышэй зьмешчанай карыкатурай асымілятарскае стаўленьне польскіх дзяржаўных і царкоўных уладаў да нацыянальных мяншыняў Польскае Народнае Рэспублікі.

### ЛІК ВУЧНЯЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Паводля газэты „Ніва" ад 19. XI. 1982 г., „колькасьць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых і сэрэдніх школах Беласточчыны, складала ў пачатку 1982/83 школьнага году 3915 у параўнаньні з 3954 ў папярэднім годзе".

## РУХ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Ад Рэдакцыі:** У папярэднім нумары „Беларуса" мы зьмясьцілі першую частку артыкулу з часапісу беларускіх студэнтаў у Варшаве „Сустрэчы". Ніжэй падаём заканчэньне гэтага артыкулу, зьмешчанага ў „Сустрэчах" пад заг. „Дыхаць чыстым паветрам". Аўтар артыкулу — Іван Максымюк, галоўны рэдактар „Сустрэчаў".

***

І так паехалі далей.

Аднак, нягледзячы на гэтыя немалаважныя карані, штосьці накшталт пагаворкі „Паляшукі мы, а не чалавекі" вызначае нашы паводзіны адносна свае нацыянальнасьці. У большай ці меншай ступені адчуваньне нацыянальнай горшасьці выносіць малады Беларус з сабою ў шырокі сьвет, г. зн. перад усім у горад, дзе сутыкненьне з польскай культураю, і што тут утайваць, зь іншым успрыйманьнем сьвету, павялічвае гэтае яго адчуваньне і нараджае востры псыхалягічны канфлікт.




**З часапісу „Сустрэчы" (1983 г.)**

Ягонае „ніжэйшае" паходжаньне вярэдзіць душу, нягледзячы на тое, адцураўся ён зусім свае беларускасялянскае спадчыны, ці не. Калі адцураўся і „стаў Палякам" — лічы, што чалавек прапаў як паўнацэнная эмацыянальна асоба. Душы не мяняецца так хутка, як вопратку ці мову. Такая „нацыянальная трансфармацыя" патрабуе ад „новага Паляка" мужнасьці ў адстаяньні свайго новага я. Перад усім хутка патрабуецца псыхічны камфорт, гэта значыць безагаворачнае прызнаньне ў асяродзьдзі свайго новага вобліку. Трэба зрабіцца больш польскім, чымсьці сапраўдныя радавітыя Палякі. А гэта нялёгка даецца, сябры. „Сустрэчы" разьлічаны на распаўсюджваньне сярод Беларусаў у Польшчы, а не на захад і ўсход ад Польшчы, таму я мяркую, што справа наогул вядомая з асабістага дасьветчаньня і пра гэтае хопіць.

Калі Беларус па паходжаньні астаўся ў душы Беларусам, яго ізаляваная духоўна беларускасьць (ізаляваная, бо дагэтуль цяжка было ўявіць сабе іншую) у гэтым выпадку таксама зьнявечвае яго сьветабачаньне, бо ў вялікай меры будзе гэта сьветабачаньне ягняці, зь якога жыўцом здымаюць шкуру. Для яго існуюць два сьветы нясутыкальныя — сьвет „свой" і сьвет „польскі".

Апрача тых двух відаў — Беларуса-супэрпаляка і Беларуса-адзіночкі — існуе ўсім вядомы трэці від: Беларус афіцыяльны. Гэта той, які запісаўся ў Беларускае Культурна-Грамадзкае Таварыства і там дзейнічае, а прынамсі бярэ ўдзел у паседжаньнях і сходах у структурах гэтае арганізацыі. На мой асабісты пагляд БГКТ зрабіла шмат, асабліва ў 60-х гадох, у галіне беларускай культуры. Слава ды хвала яму за гэта. Як правіла, яно абапіралася перад усім на актыўнасьць вёскі і дамаглося неблагіх посьпехаў у сваёй працы. Аднак недзе зь сярэдзіны 70-х гадоў пачаўся працэс, які далікатна можна акрэсьліць працяглым крызісам, і які, на жаль, трывае па сёньняшні дзень. Таварыства так і не змагло зрабіць кроку якаснага характару, які-б прыблізіў да яго групы беларускай інтэлігенцыі і падключыў яе да дзейнасьці. Паступова БГКТ трациіла свой уплыў на вёску. Часткова не са свае віны. Непрынцыповасьць Герэка пакінула свой сьлед і ў нацыянальнай палітыцы.

На сёньняшні дзень з Таварыства асталіся абмуршэлыя структуры ды тыя-ж самыя людзі ўва ўладах, што дзесяць і болей гадоў таму назад. Абнаўленьне ахапіла ўсе праявы грамадзкага жыцьця ў краіне, не кранула толькі беларускай меншасьці. „Вось цьвёрдасьць і прынцыповасьць!" — гукне хтосьці, прачытаўшы гэтае. А мне тут гукаць ня хочацца. Калі ня будзе сьвежай ідэі ў дзейнасьці БГКТ, яно само сабою ператтворыцца ў рэгіянальны запаведнік ці музэй.

Карціна разгорнутая тут ня вельмі прывабная, гэта праўда. Будучыня пакажа, ці астанецца яна такою. Аднак будучыня ўжо сказала сваё першае слова.

Будучыня беларускага грамадзка-культурнага руху ў Польшчы вырашаецца сёньня па-за рамкамі гэтае карціны, а менавіта ў студэнцкім асяродзьдзі. Якраз студэнты супольнымі намаганьнямі зрабілі той важкі першы крок уперад, які перакінуў мост ад беластоцкага беларускага запаведніка ў шырокі сьвет. І таму ня крыўдуйце, паважаныя старэйшыя таварышы, на студэнтаў, што яны быццам вас абмінулі. Ідзе новая, маладая зьмена. І калі ўжо ня зможаце ёй пасобіць, то прынамсі не капайце ямаў на дарозе. Такая ўжо малая просьба да вас.

Нарэшце мы нос у нос падыйшлі да самай сутнай сутнасьці праблемы, і ніякімі бакавымі развагаваньнямі я ня буду яе пазьбягаць. Шматлікія студэнцкія мерапрыемствы турыстычнага, навуковага, выдавецкага ці іншага характару не займелі толькі зручнай формы правесьці свабодны час і неяк пазабавіцца ў сяброўскім крузе землякоў зь Беласточчыны. Гэтая актыўнасьць, якая паступова набірае шматграннасьці і ахоплівае ўжо вялікі працэнт беларускіх студэнтаў, мае зьдзяйсьніць адну вялікую і вартую намаганьняў ідэю. Магчыма яе выказваць парознаму, але сутнасьць астаецца гэткая-ж самая. Я выкажу яе ў наступным выглядзе: беларускі студэнцкі рух у Польшчы імкнецца адыграць рашаючую ролю ў рэгабілітацыі душэўнага вобліку Беларуса перад усім у сваім асяродзьдзі, а наступна ў асяродзьдзі ўсіх польскіх студэнтаў. Рэгабілітацыя вобліку зацюканага паляшука ці падляшука, які так і не зьмяніўся ад вякоў і спутаны пакутуе дзесьці на пэрыфэрыі жыцьця.

Ня чую воплескаў..

Пардон, я й забыўся, што маем 80-я гады.

Што я маю на ўвазе, гаворачы аб „рэгабілітацыі душэўнага вобліку Беларуса"? Чаму менавіта „перад усім у сваім асяродзьдзі"? І чаму студэнтам адводжу „рашаючую ролю"?

Я нездарма ўспамінаў пра тыя душэўныя зьнявечаньні, якія наогул зьяўляюцца непазьбежным вынікам сутыкненьня дзьвюх культураў, адна зь якіх дамінуе над другою. Тых зьнявечаньняў ніхто Беларусам ня выгаіць апрача іх самых. А будзе яшчэ лепш, калі Беларус іх увогуле не займее. Вось гэтае лячэньне ці прафілактыку я называю „рэгабілітацыяй душэўнага вобліку Беларуса".. Сваёй агульнаграмадзкай актыўнасьцю, накіраванай ці то на стварэньне ўмоваў для належнага разьвіцьця новай беларускай культуры, ці то на захаваньне існуючай спадчыны, студэнты ня толькі прадаўжаюць існаваньне свайго народу, але — і гэта цяпер —самае галоўнае — як ягоны лепшы, адукаваны слой, у працы ствараюць гурт душэўна незьнявечаных Беларусаў, якія на справу сваёй нацыянальнай прыналежнасьці не глядзяць як на грэх ці Божую кару.

Усьведамленьне сабе сваіх магчымасьцяў і добрае іх выкарыстаньне — гэта й ёсьць лячэньне. І мае яно дабратворны ўплыў на грамадзтва. Пачынаць мы павінны працу ў сваім асяродзьдзі, паказаць недаверкам ці проста абыякавым, што можна дыхаць чыстым паветрам ува ўсіх адносінах паўнацэннага чалавека, які скінуў яшчэ адно непатрэбнае пута: пута нацыянальнай горшасьці.

Я, здаецца, адказаў на ўсе тры пытаньні адным махам, можа яшчэ слоў некалькі пра „рашаючую ролю". Ня толькі ў тым яна заключаецца, што студэнцкая моладзь — будучыня народу. Студэнты цяпер складаюць сабою адзіную сілу, здольную да дынамічнай дзейнасьці на ніве беларускай культуры. Сувязь з цэлым польскім студэнцкім асяродзьдзем дазволіць на сапраўдны выхад з духовай ізаляванасьці і абмежаваньня да асяродзьдзя беластоцкага радаслоўя.

І тут ужо можа пайсьці гаворка пра тое, якія сродкі дзеля гэтага прыняць якія „меншыя" мэты паставіць, каб зьдзяйсьніць гэтую агульную мэту. Але на сёньня зь мяне хопіць.

Паздраўляю вас, сябры. Тых, якія мелі мужнасьць датрываць да апошняй старонкі.

Хачу вас падбадзёрыць. І кінуць у масы некалькі лёзунгаў. Такі ўжо грамадзкі ўмоўны рэфлекс засвоіўся. Выбачайце, калі не таго чакалі. Вось яны:

Змагары-студнэты! Праявеце нязвычайную сілу, каб стаць звычайнымі людзьмі! Каб дыхаць чыстым паветрам!

### „СУСТРЭЧЫ"

У Варшаве 16 красавіка 1983 г. на сходзе студэнтаў-Беларусаў была заснаваная Рада Культуры Студэнтаў Беларускае Нацыянальнасьці (РКСБН). Была апрацаваная праграмавая дэклярацыя ды прыняты статут арганізацыі. У статуце сказана пра мэты Рады:

„Арганізаваньне культурнай дзейнасьці, разьвіваньне й падтрымваньне мастацкае творчасьці, вядзеньне публіцыстычнай і выдавецкай дзейнасьці, арганізоўваньне й падтрымваньне студэнцкага журналістычнага руху, разьвіваньне супрацоўніцтва й супольнага дзеяньня зь іншымі студэнцкімі Групамі Актыўнасьці, пашыраньне беларускае культуры ў студэнцкім асяродзьдзі, арганізоўваньне турыстычнай дзейнасьці, стварэньне ўмоваў для выкарыстоўваньня інтэлектуальнага патэнцыялу студэнтаў у межах разьвіцьця беларускай культуры".

Ініцыятары падалі варшаўскаму Акруговаму Згуртаваньню Польскіх Студэнтаў заяву з прапановай зарэгістраваць РКСБН. Пасьля таго, як былі ўзгодненыя разыходжаньні ў статуце, беларуская студэнцкая арганізацыя была зарэгістраваная — 16 травеня 1983 году. Пад канец таго-ж году зьявіўся ў Варшаве першы нумар беларускага выданьня органу студэнтаў нацыянальных мяншыняў пры Галоўнай Радзе Згуртаваньня Польскіх Студэнтаў, часапісу „Сустрэчы".

Дасюль выйшла два нумары „Сустрэчаў" ,адзін за 1983 г. другі за 1984 год. Часапіс гэты двумоўны: частка матар'ялаў папольску, частка пабеларуску. Першы нумар быў загалоўлены папольску — „Спотканя", другі мае ўжо беларускі назоў — „Сустрэчы".

У першым нумары „Ад рэдкалегіі" казалася:

„Часапіс ‚Сустрэчы' ў меру сваіх магчымасьцяў будзе ствараць умовы да (культурнай) самаарганізацыі асяродкаў студэнтаў нацыянальных мяншыняў у Польшчы. (...) Тэксты будуць публікавацца ў мовах польскай, беларускай, літоўскай і ўкраінскай".

У першым нумары, апрача ўводнага артыкулу й тэксту статуту РКСБН, былі зьмешчаныя артыкулы: пра дзейнасьць беларускіх студэнтаў у Польшчы, пра студэнцкую экскурсію ў Румынію, пра паходжаньне назову „Беларусь", рэцэнзія на два раманы беларускага савецкага пісьменьніка Івана Чыгрынава ды хроніка з жыцьця й дзейнасьці беларускіх студэнтаў у Варшаве й на Беласточчыне.

У леташнім другім нумары „Сустрэчаў", у якім выразна ўжо дамінуе беларуская мова, зьмешчаны артыкул „Дыхаць чыстым паветрам" (перадрук якога канчаем у гэтым нумары „Беларуса"), верш (даволі мадэрнісцкі, кажучы коротка) Андрэя Сьцепанюка; артыкул пра букавінскую архітэктуру (сьлед румынскае экскурсіі); артыкул зь гісторыі армянскае культуры; у рубрыцы „З жыцьця нацыянальных меншасьцяў" (вельмі добрая рубрыка!) расказваецца пра асьвету ў Валіі з параўнаньнем (на некарысьць Польшчы) палажэньня беларускае мяншыні ў Беласточчыне: палітычны гумар; хроніка.

Другі нумар „Сустрэчаў" ілюстраваны ўжо фатаграфіямі, а ня толькі рысункамі, як першы.

Абодвы нумары „Сустрэчаў" даюць даволі добрае ўяўленьне аб праблемах, цяжкасьцях і здабытках беларускіх студэнтаў у Польскай Народнай Рэспубліцы. Выданьне гэта цікавае й добра рэдагаванае. Апрача ўсяго іншага, сьветчыць яно аб тым, што на Беласточчыне расьце здаровая духова маладая зьмена Беларусаў.

*Першага заступніка Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі др. БАРЫСА РАГУЛЮ шчыра вітаем з 65-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 1 студзеня 1985 г., ды жадаем шмат здароўя й далейшае энэргічнасьці ў прафэсійнай, грамадзкай ды палітычнай дзейнасьці.*

*Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады БНР*

*Шматгадовага працаўніка на беларускай выдавецкай ніве і рэлігійнага дзеяча пастара ЯНА ПЯТРОЎСКАГА шчыра вітаем з 80-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 20 студзеня 1985 г., ды жадаем добрага здароўя й далейшае плённае працы ў вывучэньні багацьцяў клясычнае грэцкае культуры ды пашырэньні веды пра яе сярод Беларусаў.*

*Рэдакцыя газэты „Беларус"*

# МАСТАК ШЫРОКАГА ДЫЯПАЗОНУ



Пётра Сяргіевіч. Аўтапартрэт.

## ВЕСТКА З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

У канцы мінулага году надыйшла сумная вестка з Бацькаўшчыны, што 3-га лістапада 1984 г. на ваенных могілках на Антокалі ў Вільні пахавалі выдатнага нашага мастака Пётру Сяргіевіча.

„Сяргіевіч, — паводля атрыманае весткі, — бадай усё жыцьцё пражыў у Вільні, быў заслужаным дзеячом мастацтваў Літоўскае рэспублікі, але ў сваёй творчасьці заўсёды быў і заставаўся беларускім патрыётам. Хаўтуры арганізаваў Саюз мастакоў Літоўскай ССР. На іх прыехала шмат мастакоў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі зь Беларусі. Пражыў Сяргіевіч 84 гады, але апошнім часам здароўе ягонае моцна пахіснулася; дзеля склярозу блізу зусім страціў памяць і, ведама, працаваць ужо ня мог. Апошняя ягоная пэрсанальная выстаўка адбылася ў Вільні ў 1980 г. на ягонае 80-годзьдзе Тады ён быў яшчэ даволі бадзёры, выступаў на адкрыцьці выстаўкі". Гэтулькі падаюць з Бацькаўшчыны.

Пётра Сяргіевіч нарадзіўся 27 чырвеня 1900 г. (паводля старога стылю) у вёсцы Старова Дзісенскага павету Віленскае губэрні. Пачаткавую і сярэднюю асьвету здабываў, як кажуць, то скокам то бокам. Вучыўся спачатку ў мясцовай царкоўна-прыхадзкой школе, тады — у школе рамёслаў пры прытулку імя Мантвіла ў Вільні, нарэшце вучыўся на тэхнічных курсах пры манэтным двары ў Пецярбурзе. У 1920 г. запісаўся вольным слухачом (бо ж ня меў атэстату сьпеласьці) на факультэт мастацтва Віленскага ўнівэрсытэту. У 1924-25 гг. студыяваў у Кракаве, тады ізноў вярнуўся ў Вільню і ў 1929 г. скончыў унівэрсытэт.

Пётра Сяргіевіч — мастак вялікага таленту й нязвычайнае працавітасьці. За блізу 60 год працы ён стварыў сотні абразоў зь беларускай тэматыкай, розных жанраў і рознай тэхнікі, малюнкаў і замалёвак вясковых характэрных тыпаў, партрэтаў беларускаіх дзеячоў, краявідаў беларускіх вёсак і гарадоў, вялікіх кампазыцыяў з сучаснага вясковага жыцьця ды слаўных мамэнтаў нашае гісторыі (як Усяслаў Полацкі, доктар Скарына ў друкарны; Кастусю Каліноўскаму прысьвяціў аж колькі партрэтаў і вялікіх кампазыцыяў).

П. Сяргіевіч — мастак шырокага дыяпазону. Ён працаваў у розных жанрах мастацтва. Аднэй з галінаў ягонае мастацкае зацікаўленасьці было рэлігійнае мастацтва. Ён расьпісваў касьцёлы ў Солах, Смаргонях, а ў часе нямецкае акупацыі — таксама ў Менску. Свае рэлігійныя кампазыцыі Сяргіевіч тварыў на беларускай народнай аснове, на аснове мясцовых сялянскіх тыпаў.

П. Сяргіевіч аформіў таксама колькі кніжак мастацкае літаратуры, быў сябрам рэдкалегіі часапісу „Нёман" ды напісаў колькі артыкулаў аб мастацтве. У адным із сваіх артыкулаў „Зацемкі аб мастацтве", друкаваным у часапісе „Калосьсе" (кн. 2 за 1936 г.), ён паказаў шлях, якога павінна трымацца беларускае мастацтва:

„Пасьля доўгага заняпаду, — пісаў Сяргіевіч, — паўстае Беларускі народ да выяўленьня сваіх духовых сілаў, шукаючы старадаўных традыцыяў, а так-жа новых дарог ува ўсіх галінах народнага творства. Адна з найбольш яскравых галін — гэта мастацтва. (. . .) Беларусы, што праходзяць навуку ў чужых школах — у ўсходняй ці-то заходняй часьці нашага Краю — адно павінны памятаць, каб не парываць сувязі із сваім народам і тэй крыніцай, дзе б'е нясьвядомае яшчэ жыцьцё, але здаровае і незмэханізаванае цывілізацыяй. І каб ня губіцца ў арыентацыях усходняй ці заходняй школы ў тым ці іншым кірунку, — трэба пазнаць самога сябе".

Сёлета, у скарынінскім годзе, словы гэтыя гучаць, як далёкі, але верны водгук на выказваньне вялікага палачаніна Францішка Скарыны, які пісаў: „Найвышэйшая мудрасьць — пазнаньне самога сябе".

## СЯБРОЎСТВА ЗЬ ПЕЦЬКАМ

Пётра Сяргіевіч быў маім блізкім прыяцелям праз шмат гадоў. Сябравалі мы зь ім, пачынаючы ад студэнцкіх часоў і аж да часу, калі вайна нас разлучыла.

Нашая група з трох часта спатыкалася й праводзіла разам час: нас двух і Рафал Якімовіч, скульптар, атэлье якога было ўлюблёным месцам спатканьняў. Любіў я мастакоўскае асяродзьдзе, у якім часта дыскутаваліся клясыкі й малярства ды іншыя пытаньні мастацтва й новых плыняў у ім, выказваліся асабістыя меркаваньні й ідэі. Асабліва цікава было, калі Рафал вярнуўся зь Італіі. Пецька (як я зваў Сяргіевіча) быў чалавекам, якога нельга было ня любіць. Характар ён меў сьціплы, у яго заўсёды была ахвота памагчы кожнаму — чалавек бяз жоўці, як запушчане казалі; я ніколі ня бачыў, каб ён злаваўся на што-небудзь. Усё гэта рабіла яго прыязнаю, шчадралюбаю асобаю.

На пачатку свае творчасьці Пецька маляваў і рысаваў галоўкі пераважна дзяцей або маладых асобаў і чамусьці ўсіх з круглымі носікамі.. На першых выставках амаль выключна насы Сяргіевічавых тыпаў былі круглыя. Тады аднойчы я кажу яму: „Пецька, ня ўсе-ж людзі маюць такія насы". І на наступнай выстаўцы (у бібліятэцы Урублеўскіх) Пецька выклікаў сэнсацыю: выставіў вялікі абраз, партрэт дзяўчыны ў блакітнай шоўкавай сукенцы, у сядзячай позе, з прыгожым носікам. Партрэт рабіў нязвычайнае ўражаньне — сукенка была так выканана, што гледачы параўноўвалі Сяргіевіча з Матэйкам.

Я быў вельмі задаволены, калі на аднэй з выставак прафэсар Райхэр (прафэсар анатоміі на мэдычным і мастацкім факультэтах Віленскага ўнівэрсытэту — Рэд.), які знаўся на малярстве, сказаў мне, што найбольш таленавітым маляром на выстаўцы ён уважае Сяргіевіча.

Рафал зрабіў мне бюст, а Пецька казаў: „Ну, братка, маеш такі пластычны твар! .. Але я яшчэ не гатовы цябе маляваць". Так і не сабраўся намаляваць мой партрэт. Ведаю, што Зосьці Верас намаляваў. але па вайне ўжо. Мне-ж намаляваў ён вялікі абраз ратая, малюнак вісеў у мяне ў пачакальні для пацыентаў. Шмат якія наведвальнікі казалі мне, якое моцнае ўражаньне на іх рабіў Сяргіевічаў малюнак, а адзін пацыент з Масквы сказаў: „Гэты абраз павінен быць у музэі".

Пакінуў Пецька свае малюнкі на сьценах трох касьцёлаў на Беларусі. Я асабіста бачыў толькі адзін касьцёл ім маляваны, у Смаргонях. Там у купале над галоўным аўтаром быў малюнак манстранцыі, а зь левага боку — працэсія беларускіх сялянскіх тыпаў у характэрнай вопратцы, якую маляр добра ведаў зь сёлаў. Шмат якія пэрсанажы працэсіі былі з кругленькімі носікамі. Справа была працэсія духавенства й інтэлігенцыі ды паноў, таксама ў адпаведнай вопратцы.

Пецька спрычыніўся да знахадкі і памог у набыцьці аднаго экспанату для музэю імя Івана Луцкевіча. Ён знайшоў дзесьці на Палесьсі ў касьцёліку арнат са слуцкіх паясоў і ўгаварыў пробашча замяніць яго на новы арнат; памог мне купіць новы арнат, а знойдзены прывёз у музэй як экспанат.

**Др. Баляслаў Грабінскі**

## ЭПІЗОД З ЖЫЦЬЦЯ П. СЯРГІЕВІЧА

Па прыходзе бальшавікоў у Вільню ў 1939 г. Антон Луцкевіч, відавочна, спадзяваўся, што можа быць арыштаваны і сказаў мне, як заступніку старшыні Беларускага Навуковага Таварыства (БНТ), дзе будуць ключы на выпадак ,калі яго ня будзе. Гэткім чынам, па арышце А. Луцкевіча я меў ключы і быў адказны за Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча.

Калі Вільня перайшла ў рукі Лятувісаў, я быў паведамлены, што музэй падлягае міністэрству культуры й асьветы лятувіскага ўраду. Але як бальшавікі вярнуліся ў Вільню (1940 г.), па першых тыднях іхнае ўлады я мог вярнуцца да свае лекарскае практыкі ды ізноў пачаў наведваць музэй.

Аднае раніцы я знайшоў дзьверы музэю апячатаныя пячаткаю НКВД. Раней я заўсёды думаў, што з музэю не павінна нічога быць вынашана, але цяпер зразумеў, што мой прынцып быў хвальшывы: сьвежыя архіўныя дакумэнты з паседжаньняў БНТ з прозьвішчамі віленскіх Беларусаў і з запісанымі пастановамі, часта антыкамуністычнымі, павінны былі быць вынесеныя, каб ня трапілі ў рукі НКВД.

Абгледзеўшы дакладна дзьверы і пабачыўшы, што іх можна адчыніць, адлупіўшы пячатку і прыклеіўшы яе назад (шнурок ад клямкі да завесаў не перашкаджаў гэтаму), я падаўся да прыяцеля Пецькі Сяргіевіча, бо аднаму было-б немагчыма ўсё выканаць. Пецька, не марудзячы ,згадзіўся памагчы, хоць я яму сказаў, што мы рызыкуем жыцьцём. Ён на гэта адказаў: „Што будзе табе, тое будзе й мне".

Узяўшы тры куфэрачкі, пасьцілку , ляк, сьвечку, сернікі й нож. адправіліся мы ў восенскі, цёмны мокры (ніто імгла, ніто дробны дожджык) вечар на Вострабрамскую. Музэй быў у паўдзённым крыле Базыльлянскіх муроў, а дзьверы ягоныя насупраць вакон заходняга крыла, былога памешканьня Беларускае Гімназіі, дзе ў тым часе месьцілася настаўніцкая лятувіская сэмінарыя. Пры бальшавікох кіраўніцтва й служба стоража сэмінарыі былі абсаджаныя людзьмі НКВД, і нашая экспэдыцыя была тым больш небясьпечная. Вокны калідору сэмінарыі, зь якіх можна было бачыць дзьверы музэю, былі асьветленыя і час ад часу нехта праходзіў калідорам. Мы вычакалі, стоячы спакойна й ціха.

Падважыўшы нажом пячатку, я адчыніў як можна цішэй дзьверы і, закрыўшы пасьцілкаю вакно, дзе быў архіў, мы скоранька, пры сьвечцы, наладавалі тры куфэрачкі папераў, у якіх была гісторыя Беларускага Навуковага Таварыства. Вынесшы за дзьверы, я ізноў трымаў пасьцілку, закрываючы сьвечку, якою Пецька разаграваў ляк, каб прыклеіць пячатку на тое-ж месца, дзе яна была перад тым. Вынесшы ціхенька куфэрачкі за браму , узялі мы звожчыка завезьці да мяне. Гэтых пару гадзін мы былі пад такім нэрвовым напружаньнем, што зараз-жа пайшлі зь Пецькам у рэстаранчык і выпілі па пару чарак гарэлкі.

Калі на наступны дзень пайшоў я пабачыць нашую работу зь пячаткаю, знайшоў, што наш ляк быў сьвятлейшы за арыгінальны. Але на гэтым не канец. За некалькі дзён пячатка адпала, і я зноў быў у страху, што могуць мяне вінаваціць, бо ў мяне ключы. Званіў я ў лятувіскае міністэрства культуры й асьветы, але адтуль нейкі Станкявічус адказаў мне: „Это не мое дело". Тады я пастанавіў ісьці ў НКВД, і Пецька ізноў згадзіўся пайсьці са мною. Энкавэдыст рашыў прыняць толькі мяне, і мяне ўпусьцілі праз дзьверы, што аўтаматычна адчыняліся й зачыняліся, а Пецька чакаў на Ахвярнай вул., ці выйду я, бо ня ўсе выходзілі з-за тых дзьвярэй.

Энкавэдысту я сказаў, што вучні сэмінарыі, гуляючы ,маглі сарваць пячатку, але ён сказаў мне не турбавацца ,бо яны, НКВД, скора забяруць архівы з музэю.

За колькі дзён я адчыніў ім дзьверы і тры грузавікі архіваў былі перавезеныя на Ахвярную.

**Б. Грабінскі**

## У МЕНСКУ Ў ЧАСЕ ВАЙНЫ

У часе Другой сусьветнай вайны й нямецкай акупацыі Беларусі Пётра Сяргіевіч нейкі час працаваў у Менску. Ён прыехаў сюды ў 1941 г. на запросіны свайго прыяцеля й мэцэната зь Вільні кс. др. Станіслава Глякоўскага, які тут займаўся душпастырскай працай сярод менскіх Беларусаў-каталікоў. Галоўнай мэтай прыезду Сяргіевіча ў Менск была праца пры аднаўленьні разбураных бальшавікамі каталіцкіх сьвятыняў.



Паховіны Пётры Сяргіевіча ў Вільні ў лістападзе 1984 г.

Кс. Глякоўскі найперш пачаў аднаўленьне катэдральнага касьцёлу Дзевы Марыі, які знаходзіўся на Высокім Месьце (Пляц Волі). Касьцёл гэты захаваў няблага вонкавы выгляд, але ў сярэдзіне быў цалком зруйнаваны: былі зьнішчаныя багатыя барокавыя аўтары, скульптурныя фігуры пры філярах, павыбіваныя вітражы вокнаў. Захавалася толькі размалёўка столі, якая не адпавядала архітэктурнаму стылю й гістарычнай эпосе ў разьвіцьці рэлігійнага мастацтва.

Спэцыяльна пакліканая кс. Глякоўскім камісія з удзелам скульптара Керзіна і мастакоў Тычыны й Віера параіла кс. Глякоўскаму, з увагі на ваенны час, ня выдаваць грошай на вялікія мастацкія рэстаўрацыйныя працы, ды зьвярнуць увагу на кансэрвацыю сьвятыні і меншыя канечна патрэбныя работы. У выніку пастаноўлена было першым чынам аднавіць дзьве капліцы пры вялікім аўтары: Сьв. Тройцы і Сьв. Фэліцыяна.

Пётра Сяргіевіч пачаў ад капліцы Сьв. Тройцы: збудаваў патрэбныя рыштаваньні, аднавіў і дарыхтаваў да работы сьцены ды пачаў маляваць столь. Ня ведаю, у якім стане працы застаў яго зварот Саветаў у Менск.

Другою працай, якую даручыў Сяргіевічу кс. Глякоўскі, была апека над аднаўленьнем касьцёлу Сьв. Сымона й Галены (Чырвонага касьцёлу). Чырвоны касьцёл у сярэдзіне таксама быў зьнішчаны ды перабудаваны на тэатр, але аднавіць яго было лягчэй, бо былі знойдзеныя старыя праекты росьпісу сьценаў ды навет старыя абразы ў бочныя аўтары. Старыя абразы занадта адбівалі фамілійныя выявы фундатараў касьцёлу Вайніловічаў і бальшавікі выкарыстоўвалі іх для антырэлігійнай прапаганды.

Мастакі параілі кс. Глякоўскаму намаляваць новыя абразы, а старыя павесіць на бочных сьценах, як гістарычныя памяткі. Кс. Глякоўскі так і зрабіў, а новыя абразы даручыў маляваць П. Сяргіевічу.

Аднойчы разам з пляменьніцай братоў Луцкевічаў сп-няй Яняй я наведаў Сяргіевіча ў часе ягонае працы над абразом Божае Маці ў бочны аўтар правай навы касьцёлу. Калі мастак выйшаў на пачастунак, мы, разглядаючы дадзены нам альбом, заўважылі, што да свае працы мастак выкарыстоўвае фатаграфіі свае прыгожуні жонкі. Сяргіевіч прыняў з усьмешкай нашае меркаваньне аб ягонай мадэлі да абраза і сказаў: „ну, мастакі так заўсёды рабілі, але вы лепш аб вашым адкрыцьці не расказвайце айцу Станіславу".

Чырвоны касьцёл быў цалком аднаўлены, але што сталася пасьля з абразамі, якія маляваў Сяргіевіч, нам ня ведама.

У вольным ад касьцельнага мастацтва часе Сяргіевіч маляваў партрэты тагачасных менскіх дзеячоў: праф. Іваноўскага, Ант. Адамовіча, свайго земляка А. Цьвячкоўскага ды іншых.

Прыгадваецца пры гэтай нагодзе ізноў вясёлы выпадак. На мальбэрце стаяў партрэт праф. Іваноўскага, над якім Сяргіевіч працаваў. Я, глянуўшы на партрэт, кажу: „А-казваецца, маэстра, вы перайшлі на соцрэалізм, ужо пачынаеце маляваць, чаго няма й ня будзе, у Іваноўскага-ж толькі тры пальцы на руцэ, а на партрэце ў вас — пяць". А Сяргіевіч на гэта: „Ну, ведаеш, Іваноўскі-ж — старшыня гораду... Ды ўрэшце яшчэ пагавару з гаспадаром, можа давядзецца зьмяніць кампазыцыю".

Пётра Сяргіевіч быў вясёлым і жартаўлівым чалавекам і шмат вясёлага пакінуў у сваіх абразох.

**Антон Шукелайць**

## ПАМЯЦІ ПАРФІРЫЯ ТРЫСМАКОВА



Сьв. пам. Парфіры Максімавіч Трысмакоў быў таленавітым вучоным-мэталюргам, чалавекам рэдкай эрудыцыі. Зь ім зьвязала мяне жыцьцё яшчэ ў сярэдзіне 1930-х гадоў, калі я быў студэнтам Беларускага Дзяржаўнага Палітэхнічнага Інстытуту ў Менску. Былі мы разам у Менску і ў часе нямецкае акупацыі, а пасьля — на прымусовай працы ў Нямеччыне, дзе дачакаліся вызваленьня амэрыканскай арміяй.

Па сканчэньні вайны, пражыўшы разам у лягерах для „перамешчаных асобаў" (ДП) у Рэгензбургу й Міхэльсдорфе пад Камам, мы расталіся: Трысмакоў зь сям'ёй выехаў у Аўстралію, а мы — у Злучаныя Штаты. Але лучыла нас і надалей сталае ліставаньне.

Парфіры Трысмакоў быў надзвычай добрым і глыбака рэлігійным чалавекам. Слова „не" амаль адсутнічала ў ягоным лексыконе. У яго ня было ворагаў, і ён бескарысьліва дапамагаў усім, каму толькі мог, незалежна ад таго, ці яго прасілі дапамагчы ці не.

Я хацеў-бы расказаць тут толькі аб двух выпадках гэткае бескарысьлівае дапамогі.

У сярэдзіне 1930-х гадоў у Менску быў створаны Беларускі Дзяржаўны Палітэхнічны Інстытут шляхам аб'яднаньня пяцёх паасобных інстытутаў, якія сталіся ягонымі факультэтамі. Трысмакоў прыехаў у Менск з Гомелю, дзе ён выкладаў у Машынабудаўнічым інстытуце. Я ў тым часе быў студэнтам мэханічнага аддзелу тарфянога факультэту, які мяне зусім ня цікавіў.

Дзякуючы маім спартовым дасягненьням, я быў патрэбен інстытуту ў Менску, але мусіў ехаць на практыку на Ўрал, чаго аніяк мне не хацелася. Я напісаў заяву аб пераводзе на машынабудаўнічы факультэт. Дазвол мне далі пад умовай, што я здам экзамен з тых прадметаў, якіх ня было ў праграме майго факультэту. Адзін з такіх прадметаў, мэталяграфію й фізычную мэталюргію, выкладаў Трысмакоў. Пакуль я падрыхтаваўся да экзамену, сымэстар скончыўся, і Трысмакоў на другі дзень плянаваў выехаць зь Менску на вакацыі зь сям'ёй. Але вось зьявіўся да яго я зь лістом ад дэкана факультэту аб тым, што ён, Трысмакоў, мусіць праэкзаменаваць мяне, бо афіцыяльныя экзамены на ўсіх трох паралельных курсах былі праведзеныя раней. Гэта было для яго ня вельмі зручна, але незважаючы на гэта, ён не пашкадаваў пары гадзінаў часу, і, як належала, правёў грунтоўны экзамен.

Трысмакоў быў вельмі папулярным настаўнікам і ніколі не шкадаваў свайго часу для іншых. Ён даваў студэнтам ідэі для навуковых дасьледваньняў у лябараторыі ды шмат часу праводзіў з больш слабымі студэнтамі, каб і яны ўдала правялі патрэбныя для дыплёмаў досьледы.

Трысмакоў быў ня толькі вельмі добрым чалавекам, цудоўным сем'янінам і прыяцелем для вялікай колькасьці людзей, але й высока аўтарытэтным вучоным-мэталюргам.

Хачу расказаць яшчэ аб адным выпадку, калі экспэртыза Парфірыя Максімавіча ўратавала жыцьцё беларускаму селяніну.

Аднойчы са слупоў электралініі паміж Менскам і Масквой было абрэзана колькі кілямэтраў меднага дроту. У вёсках уздоўж гэтай лініі пачаліся вобыскі, і ў аднаго селяніна знайшлі невялікі скрутак меднага дроту, які ягоны малы сын дзесьці знайшоў гадоў пару перад тым. Незважаючы на гэта, селянін адразу-ж быў арыштаваны і яму пагражала найменш шматгадовая высылка ў Сібір ці ў якое іншае месца. На шчасьце, аднаму энкавэдысту прыйшла ідэя давесьці, што гэта запраўды той самы дрот. Два кавалкі дроту былі пасланыя ў Палітэхнічны інстытут на дасьледаваньне. Дырэктар інстытуту заклікаў найлепшага спэцыяліста інстытуту Трысмакова й сказаў, што адказ мусіць быць дадзены на наступны дзень раніцай. Трысмакову давялося папрацаваць цэлую ноч: дакладна вымерваць два кавалкі дроту, праводзіць хэмічныя, мэталяграфічныя, структурныя й мэханічныя дасьледваньні. Раніцай Трысмакоў быў пэўны, што гэта былі розныя драты. Гэта значыла, што селянін ня меў нічога супольнага са злачынствам, і арыштаванага выпусьцілі. Пасьля мы даведаліся, што НКВД ня зусім дало веры Трысмакову, і іншыя ўзоры абодвух дратоў былі пасланыя на аналіз у адну з маскоўскіх лябараторыяў. За пару тыдняў і адтуль прыйшлі вынікі параўнаньня, якія ня розьніліся ад вынікаў, атрыманых Трысмаковам. Наш дарагі Максімыч, як мы яго звалі, стаўся яшчэ больш аўтарытэтным і паважаным.

Хочацца тут выказаць сп-ні Трысмаковай, дачцы Лёлі і ўсім сваяком, а таксама прыяцелям Нябожчыка ў Адэляйдзе, спачуваньні ды надзею, што іхнае сёньняшняе гора аблягчаць да пэўнай меры прыемныя ўспаміны аб усім тым добрым, якое сьв. пам. Парфіры Трысмакоў зрабіў усім, хто зь ім жыў і хто зь ім у сваім жыцьці спатыкаўся, да каго дакранулася ягонае шчодрае сэрца.

**Сьцяпан Стаськевіч**

### „БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА" № 29 1984 г.

У нумары:

Тэкст праклямацыі губэрнатарам штату Нью Джэрзы Дня Беларускае Незалежнасьці; адозва начальніка Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча; інфармацыя пра абход Тыдня Паняволеных Народаў у Белым Доме й тэкст праклямацыі Прэзыдэнта Рэйгана; справаздача пра 17-ю Канфэрэнцыю Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі; паэма Масея Сяднёва „Беларусь"; працяг арт. Аўгена Калубовіча „На крыжовай дарозе" (пра быт у савецкіх канцлягерах); апавяданьне К. Юхневіча „Знаёмыя ўрадоўца Лядзеўскага"; верш Алеся Змагара „Беларусь"; арт. І. Касяка „Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім"; ліст у рэдакцыю (пра кнігу ўспамінаў Л. Галяка); хроніка; рэцэнзія на самвыдавецкую (гзэраксаваную) кнігу Віталія Цярпіцкага „Гісторыя пабудовы Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьвятое Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры". У нумары 40 бачынак.

### „ЦАРКОЎНЫ СЬВЕТАЧ" № 37 Каляды 1984 г.

У нумары:

Матар'ял на запярэчаньне цьверджаньням Дж. Лофтуса ў ягонай кнізе „Беларускі сакрэт". Агляд кніжкі П. Мірчука „Мае сустрэчы й дыскусіі ў Ізраілі; тэкст ліста а. С. Коўша дырэктару „Голасу Амэрыкі" й адказ на ліст; арт. „Развал БАПЦ". Хроніка (ілюстраваная). Нумар мае 18 старонак. Частка матар'ялу ў ангельскай мове.

## СЬВ. † ПАМ. ПАРФІРЫ ТРЫСМАКОЎ

**17. XI. 1903 — 8. I. 1985**

Неспадзявана на 82-м годзе жыцьця адыйшоў на вечны супакой сьв. пам. Парфіры Трысмакоў, пакінуўшы ў жалі й смутку жонку Алену, дачку Лёлю й дзьве ўнучкі. Нябожчык нарадзіўся ў Беларусі, меў вышэйшую асьвету, браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім і царкоўным жыцьці. Сьмерць Парфірыя Трысмакова — гэта незаменная страта ў царкоўным і грамадзкім жыцьці Беларусаў Адэляйды.

З глыбіні сэрца выказваем наша найшчырэйшае спачуваньне асірацелай сям'і Нябожчыка: жонцы, дачцы і ўнукам.

Абрад пахавінаў выканаў а. Яўгень у БАПЦ. Пахаваны Нябожчык на Чэнтэльгаймскім могільніку ў Адэляйдзе.

Вечная памяць, дарагі Парфіры. Хай будзе табе пухам аўстралійская зямелька. Спачывай там, дзе ўсе праведныя спачываюць.

**Парафія Сьв. Ап. Пятра й Паўла**
**Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі**

## СЬВ. † ПАМ. ВОЛЬГА КІРКА

Нарадзілася 3-га кастрычніка 1902 г. ў вёсцы Валокі Хойніцкага р-ну, адыйшла на вечны супачын у Тароньце 19-га студзеня 1985 г., пра што з глыбокім сумам паведамляюць

**Парафіяльная Рада Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце.**
**Сын Барыс, дачка Марыя й радня.**

## СЬВ. † ПАМ. АРКАДЗЬ ЖЫЛІК

Нарадзіўся на Наваградчыне, адыйшоў на вечны супачын у веку 58 гадоў неспадзявана ў пятніцу 25-га студзеня 1985 году. Жыў у Оўквіле каля Таронта й пакінуў у смутку жонку, трое дзяцей і радню. Браў удзел у грамадзкай працы, быў сябрам Нагляднай Рады Згуртаваньня Беларусаў Канады, сябрам парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце.

З глыбокім спачуваньнем асірочанай сям'і і з сумам дзелімся гэтай весткай.

**Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага, Таронта.**
**Парафіяльная Рада**

## СЬВ. † ПАМ. ФОКА ФАМІН

Закладчык і сябра Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне, беларускі патрыёт, навуковец, інжынер, адыйшоў у вечнасьць 25 лістапада 1983 г. ў гор. Кільмэсе ў Аргентыне, аб чым паведамляе ды глыбокае спачуваньне сям'і Нябожчыка выказвае

**Кастусь Мерляк зь сям'ёй**

## СЬВ. † ПАМ. ІНЖ. ФОКА ФАМІН

Вестка аб сьмерці інж. Фокі Фаміна дайшла да нас з далёкае Аргентыны зь вялікім спазьненьнем, дзеля гэтага падём яе толькі цяпер да ведама беларускага грамадзтва.

Пра жыцьцёвы шлях Нябожчыка мы ведаем вельмі мала. Спроба даведацца больш ня прынесла жаданых вынікаў.

Хоць сьв. пам. інж. Фока Фамін паходзіў зь беднае сялянскае сям'і, ён змог працерабіць сабе дарогу да навукі, скончыў унівэрсытэт і быў актыўным працаўніком навукі.

Нямецка-савецкая вайна застала яго ў Ленінградзе, дзе Нябожчык з жонкай і двума малымі дзецьмі, як ён расказваў, перажыў неапісальныя жудасьці, голад і холад нямецкае блякады. Эвакуаваўшыся зь Ленінграду зь сям'ёю ў першай туры, праз замёрзлае Лагадзкае возера, Фаміны прыбылі ў гор. Курск, адкуль, пасьля бітвы зь Немцамі, былі вывезеныя ў Нямеччыну.

Па заканчэньні вайны сьв. пам. інж. Ф. Фамін выехаў у Аргентыну, дзе браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Жылі Фаміны ў гор. Кільмэсе каля Буэнос Айрэсу. Нябожчык працаваў у міністэрстве земляробства, рабіў досьледы над зарошчваньнем вялікіх пустыняў Аргентыны. Напісаў некалькі працаў, але, нажаль, няведама, ці яны былі выдрукаваныя.

Сьв. пам. інж. Ф. Мамін быў чалавекам вялікай культуры й высокай маралі, шырокага сьветагляду, добра ведаў гісторыю свайго народу, які ён моцна любіў ды ціраз паўтараў, што Расейцы найбольш крыўдзілі беларускі народ на працягу ўсяе ягонае гісторыі.

Жыцьцёвы шлях Нябожчыка быў вельмі цяжкі, але духу яму не зламаў. Сьв. пам. Фамін ніколі не наракаў на сваю долю, а ў апошнім лісьце напісаў толькі, што адну ў жыцьці зрабіў памылку — выбраў неадпаведную краіну для пасяленьня, у якой ня здолеў ужыцьцёвіць сваіх мрояў — зрабіць больш для свайго беларускага народу.

Сьв. пам. інж. Фока Фамін пакінуў у смутку сваю спадарыню, сына інжынера Ўсевалода зь нявесткай, унукам і ўнучкай, якія жывуць у Аргентыне ,ды дачку Натальлю ,якая жыве з мужам і сынам у Італіі.

Сьпі й адпачывай, дарагі сябра й настаўнік, хай хоць у сьне бачыцца Табе сьветлая будучыня свайго народу, які Ты гэтак любіў.

**Кастусь Мерляк**

### НА КНІЖНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

На працягу апошняга кварталу леташняга году ў Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы (у Мангатэне на 42-й вул.) на выстаўцы „Найлепшыя новыя кнігі" былі паказаныя гэткія беларускія кнігі: „Пластыка Беларусі. XIII-XVIII ст.ст." (Менск, 1983), „Зямля пад белымі крыламі" Ул. Караткевіча (ангельскі пераклад) (Менск, 1982) ды „Нацюрморт. Творы беларускіх жывапісцаў" (Менск, 1982).

Апрача вышэй названае, у Бібліятэцы працягваецца выстаўка, прысьвечаная тэме „Цэнзура" — пра пачаткі, разьвіцьцё й сёньняшні стан цэнзуры. На гэтай выстаўцы паказаны зборнік твораў Я. Купалы „Спадчына" (выд. „Бацькаўшчына", Мюнхэн, 1955) і замежнае выданьне вершаў Ф. Багушэвіча „Смык беларускі" (Пазнань, 1984).

## СЬВ. † ПАМ. ВОЛЬГА КІРКА

Сёлета 22-га студзеня нашы таронцкія суродзічы праводзілі на вечны супачын Вольгу Кірка, матку нашага ахвярнага й заслужанага старшыні парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага Барыса. Вольга адыйшла ад нас 19-га студзеня, пасьля доўгай хваробы, і пакінула ў суме сына Барыса, дачку Марыю, пяць унукаў і сем праўнукаў. Было ёй 82 гады.



Вольга Кірка (дзявочае прозьвішча Жаўняк) радзілася ў вёсцы Валокі Хойніцкага раёну на Магілеўшчыне ў сялянскай сям'і. Яна выйшла замуж за Хведара Кірку (Кірчанка). Падчас калектывізацыі Кіркі былі раскулачаныя й Хведар на працягу колькіх гадоў скрываўся ад НКВД, а Вольга сама трымала й гадавала сям'ю.

Вайна ў 1943 г. закінула іх у Нямеччыну. Ад 1945 г. да 1951 працавалі й жылі ў Бэльгіі, а адтуль пераехалі ў Канаду, спачатку ў Садбуры, а пасьля ў Таронта.

Кіркі ведамыя із свайго глыбокага патрыятызму, веры ў Бога, ахвярнасьці, вытрываласьці ў працы, добрасумленнасьці, беларускай гасьціннасьці. Галоўна гэтыя прыметы характару Вольга перадала сваім дзецям, а ейны сын Барыс ужо дзясяткі гадоў працуе на рэлігійнай і грамадзкай ніве.

Адыйшла ад нас жанчына вялікага й добрага хрысьціянскага сэрца, а наша мясцовая грамада й наагул нашы суродзічы панесьлі яшчэ адну вялікую страту.

Барысу, Марыі й радні — наша глыбокае спачуваньне, а Вользе няхай будзе лёгкай канадыйская зямля.

**К. Акула**

### БРАШУРА ПРА ЦАРКВУ Й МОВУ

Выдавецтва „Беларус" выдала друкам брашуру няведамага аўтара з Польскае Народнае Рэспублікі пад загалоўкам: „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй". У брашуры дэбатуецца пытаньне дыскрымінацыі беларускае мовы Праваслаўнаю Царквою ў ПНР, пішацца пра пагрозу поўнае палянізацыі Беларусаў. Тэма беларускае мовы ў Праваслаўнай Царкве закраналася ў шэрагу іншых артыкулаў і адозваў, што траплялі на Захад зь Беласточчыны.

Брашуру (выдадзеную невялікім кішэнным фарматам) зь цікавасьцяй прачытаюць на Беласточчыне, дзе ейнае першае выданьне выйшла абмежаным тыражом, усяго 100 экзэмпляраў.

Цана брашуры: 1 даляр. Выпісваць можна з рэдакцыі „Беларуса". Чэкі трэба выстаўляць на газэту „Беларус".

### ГАДАВІКІ „БЕЛАРУСА"

У кожным гадавіку газэты „Беларус" — маса матар'ялаў з жыцьця на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Рэдакцыя газэты мае на продаж пэўную колькасьць гадавікоў „Беларуса", пачынаючы ад сярэдзіны 1960-ых гадоў. Цана гадавіка — 10 даляраў, плюс кошт перасылкі. Калі-б хто хацеў набыць паасобныя нумары газэты за мінулыя гады (пры ўмове, што ў нас ёсьць дадатковыя экзэмпляры), мы можам выслаць. Цана: паўтара даляра за паасобнік, улучна з коштам перасылкі.

**Выдавецтва „Беларус"**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

## „ШЛЯХАМ СКАРЫНЫ"

(Заканчэньне зь 1-й б.)

— праваслаўны ці каталік. Мабыць не належаў ён ні да праваслаўнае царквы, ні да каталіцкага касьцёлу". Аўтар артыкулу заклікаў „уважліва чытаць" Скарынавы „велапомныя прадмовы да зробленага ім перакладу Біблії".

Варта тут нагадаць, што тэксты гэтых прадмоваў былі выдадзеныя асобным кніжным выданьнем у Менску ў 1969 г. пад загалоўкам „Францыск Скарына. Прадмовы і пасьляслоўі" (выдавецтва „Навука і тэхніка"). Кніга выйшла, праўда, вельмі малым тыражом — усяго 1200 экзэмпляраў.

Але вярнемся да артыкулу Тамаша Грыба ў часапісе „Іскры Скарыны". „Возьмем хоць-бы такі прыклад, — пісаў Тамаш Грыб: — пагляд Скарыны на Біблію. Скарына кажа: „Сьвятое пісьмо ўсе іншыя навукі перавышае, таму што ў ім чытаем, як пад простымі словамі тайна хаваецца; і моладзі, і людзям простым ёсьць навука; вучыцелям і людзям мудрым ёсьць падзіўленьне. У гэтай кнізе ўсяе прыроднае мудрасьці пачатак і канец. У гэтай кнізе напісаны ўсе законы, якімі людзі маюць кіравацца на зямлі. У гэтай кнізе ўсе лякарствы душэўныя і цялесныя поўнасьцю знойдзеце. Тут навучаньне філязофіі дабранраўнае, як маем любіць Бога для самога сябе і бліжняга — для Бога. Тут справа ўсякага сходу людзкога і ўсякага места; што вераю, злучэньнем ласкі й згодаю паспалітае дабро памножана бывае. Тут навучаньне сямёх навук вызваленых поўнае".

Вось гэтак пераказам Скарынавых словаў аўтар артыкулу Тамаш Грыб перадаў асноўны пагляд Скарыны на Біблію, як крыніцу мудрасьці й асабістых ды грамадзкіх вартасьцяў. Тамаш Грыб пісаў далей:

„У Біблії, кажа Скарына, знаходзім вялікую мудрасьць, бо ўся Саламонава і Арыстотэлява — боская і жыцейская мудрасьць у гэтай кнізе кароткімі словамі сказаная. Аднак, паводле Скарыны, найвышэйшая мудрасьць — гэта разважаньне аб сьмерці й пазнаньне самога сябе. Уся Біблія, паводле Скарыны, гэта энцыкляпэдыя людзкога веданьня, у якой простымі словамі апавядаецца аб праўдзе боскай і аб праўдзе жыцейскай; знаходзім у ёй вялікую мудрасьць Саламона і вялікую мудрасьць Арыстотэля: рэлігію й навуку.

„Скарына, — зазначаў Тамаш Грыб, — не адкідае, такім чынам, ні рэлігіі дзеля навукі, ні навукі дзеля рэлігіі: ён злучае рэлігію й навуку ў творчым сынтэзе пазнаньня чалавекам самога сябе й вырашэньня праблемы сьмерці".

Аўтар артыкулу прадбачыў засьцярогі да ягоных высноваў ды абагульненьняў і таму пісаў: „Монехта скажа: Францішак Скарына, доктар лекарскіх навук, сам чалавек рэчаістае веды, як мог ён бачыць у Біблії адзіную крыніцу ўсяго людзкога веданьня?

„Пэўна-ж, — аргумэнтаваў Тамаш Грыб, — сяньня нам гэта можа паказацца дзіўным і незразумелым. Але, каб правідлова зразумець тое, што сказаў Скарына, мусім узірацца на справу з гледзішча гістарычнае пэрспэктывы. Чатыры стагодзьдзі таму назад Скарына іначай ня мог уяўляць сабе людзкое веданьне, як толькі ў Біблії. Трэба мець на ўвазе, што на Біблії і з Біблії вырастала ўся сучасная навука ў Эўропе. Гуманізм і рэфармацыя — гэта пераходная эпоха ад сярэднявечча да новага часу. Таму і ў паглядах Скарыны на Біблію, як гэта лёгка заўважыць, назіраецца ўжо элемэнт новага часу: ён прызнае самастойнае значаньне навукі, у аснове якой ляжыць праўда жыцейская: гэта праўда з жыцьця і для жыцьця.

„Аднак, усё наша веданьне навуковае мінае, яно рэлятыўнае, умоўнае. Чалавек, паводле Скарыны, патрабуе нешта больш пэўнае, абсалютнае, патрабуе веданьне праўды боскай. Калі праўдзе жыцейскай можна навучыцца, то праўдзе боскай — толькі дзівіцца. У гэтым палягае крыніца Скарынавага рэлігійна-філязофскага сьветапагляду".

Свой артыкул пад заг. „Шляхам Скарыны" ў часапісе „Іскры Скарыны" ў 1934 г. др.. Тамаш Грыб скончыў гэткімі словамі:

„Мімаволі ўспамінаецца Францішак Скарына і яго пасьлядоўнікі: Сымон Будны, Васіль Цяпінскі ды іншыя. Успамінаецца эпоха беларускага гуманізму й беларускай рэфармацыі. З глыбіні нетраў гістарычнае мінуўшчыны і з сучаснасьці выныраюць кантрасты й паралелі. І хто з пэўнасьцю можа сказаць, што шлях Скарыны ня ёсьць той адзіны і запраўдны шлях, ідучы па якім, беларускі народ дасягне ўзвышша свайго новага рэнэсансу".

## ЯШЧЭ ПРА ЗАБОЙСТВА В. ІВАНОЎСКАГА

У сувязі з узьнятай апошнімі гадамі ў беларускім друку на эміграцыі справай забойства праф. Вацлава Іваноўскага, старшыні Гарадзкой управы Менску ў часе нямецкай акупацыі Беларусі ад лістапада 1941 г. да сьнежня 1943 г., уважаю за свой дабрасуседзкі абавязак успомніць гэтта ды зьвярнуць увагу на некаторыя мамэнты зь ягонага жыцьця й дзейнасьці ў гэным часе.

Праф. Іваноўскі, прыехаўшы ў Менск, спачатку жыў у раёне Унівэрсытэцкага гарадка пры вул. Ленінградзкай, а апошні год — у раёне Юбілейнага пляцу пры Ратамскай вул. ў партэровым двукватэрным драўляным дамку, які знаходзіўся як-бы ў гародзе, на мэтраў 50 ад вуліцы.

У квартале дамоў пры самой Ратамскай вул., таксама аднапавярховых, жылі знаёмыя прафэсара, пераважна працаўнікі Управы й артыстыя гарадзкога тэатру. Другі ідэнтычны дамок, таксама воддаль ад вуліцы, але бліжэй да пустога рынку збоку, займалі судзьдзя Лявон Галяк, Язэп Найдзюк і я. За нашымі дамамі пачынаўся натуральны даволі глыбокі адхон, зарослы кустоўнікам, які цягнуўся ў кірунку Татарскіх гародаў.

Дамок праф. Іваноўскага ніколі й нікім не ахоўваўся, да яго можна было падыйсьці ў кажную пару дня й ночы.

З прафэсарам жыла толькі ягоная дачка, якая была за гаспадыню дому.. Іваноўскія ня мелі ніякіх слугаў; прафэсар любіў займацца кулінарствам і рыхтаваць ежу ня толькі для сябе, а й для частых гасьцей.

Менская гарадзкая ўправа часу праф. Іваноўскага захоўвала лібэральныя традыцыі ягонага папярэдніка др. Вітаўта Тумаша. На адказных становішчах кіраўнікоў аддзелаў (ня кажучы аб ніжэйшых працаўніках) былі людзі розных палітычных перакананьняў і рознае нацыянальнасьці. Досыць згадаць для прыкладу хоць некаторых.

Першым заступнікам старшыні Управы быў Дзямідовіч-Дзямідэцкі, прафэсійны ваяводзкі польскі ўрадавец, былы памешчык, які зь Менску эміграваў у Польшчу па Першай сусьветнай вайне. Ён не хаваў сваіх прапольскіх сымпатыяў, хоць і ўважаў сябе за Беларуса. Кіраўніком гаспадарскага аддзелу, вельмі важнага ў ваенным часе, быў Баляслаў Берут, польскі камуністы, пазьнейшы першы прэзыдэнт Польскай Народнай Рэспублікі, выдатны спэцыялісты й ляяльны працаўнік. Па двух гадох працы Берут узяў вакацыйны адпачынак ды ўжо ў Менск не вярнуўся.

Кіраўніком фінансавага аддзелу таксама быў камуністы праф. Манаў. Абодвы — і Берут і Манаў — цьвердзілі, што яны больш за камуністых сябе не ўважаюць і ніякіх партыйных сувязяў ня маюць.

Загадчыкам аднаго з тэхнічных аддзелаў (здаецца, электраэнэргіі) быў інжынер Гэбрэй зь Вільні. З даручэньня праф. Іваноўскага я забясьпечыў ягонай жонцы працу перакладніцы ў музэі на вымаганы час, дзеля атрыманьня належных дакумэнтаў для сталых жыхароў гораду.

Калі некага з працаўнікоў Управы арыштоўвала СД, як гэта ад часу да часу здаралася, праф. Іваноўскі стараўся бараніць арыштаванага, хоць не заўсёды з пазытыўным вынікам. За выдаваньне пашпартоў Гэбрэям загінуў кіраўнік пашпартнага аддзелу.

Пазыцыя старшыні Гарадзкой управы ня была зайздроснай, часта даводзілася бараніцца ад даносаў на сябе самога. Іваноўскага-ж жыхары гораду любілі, ён ніколі не карыстаўся ніякай аховай, свабодна езьдзіў па горадзе аднаконнай брычкай, або хадзіў пехатой.

Дачыненьні Іваноўскага зь Немцамі былі вельмі розныя. З рэспэктам ставіўся ён да генэральнага камісара Кубэ і патрапіў добра зарганізаваць супрацу (дарэчы, забойства Кубэ таксама выглядае загадкавым), нецярпеў розных, як ён казаў, „недавучнаў" на партыйных становішчах, хаця ад іх шмат залежала, часта й жыцьцё.

Праф. Іваноўскі беззаганна валодаў нямецкай мовай і ў сваіх публічных выступленьнях, часта разам з Кубэ, любіў цытаваць жартаўлівыя нямецкія народныя пагаворкі.

Сьмерць праф. Іваноўскага ў тыя часы ў Менску ня выклікала сумляваньня, што зьгінуў ён з загаду шэфа СД Штраўха, ніхто не надаваў значаньня таму, як называўся чалавек, які страляў зь пісталету ў Іваноўскага. Да падаваных у друку довадаў пра дачыненьне нямецкае тайнае паліцыі да забойства Іваноўскага можна дадаць яшчэ гэткія:

1) Праф. Іваноўскага заўсёды маглі зьнішчыць бальшавікі ў ягонай хаце, якая стаяла адзінцом, мэтраў дзесяць ад адхону, — маглі падпаліць, закінуць бомбу ў вакно ды спакойна, тым-жа адхонам, выйсьці за горад. Тымчасам Іваноўскі быў забіты на тэрыторыі ахоўванай Смаленскім СД, паліцыйнай расейска-нямецкай арганізацыяй, якая карысталася бальшавіцкімі мэтадамі працы, ды ледзь не насупраць галоўнай кватэры гэтае арганізацыі.

2) Праф. Іваноўскі быў зь веравызнаньня пратэстантам-кальвіністым, і як такому, належаліся яму паховіны кальвінскага абраду, з кальвінскім пастарам і на Менскіх пратэстанцкіх могілках. Так хвалаі Пранцішка Аляхновіча ў Вільні. Тымчасам паховінамі праф. Іваноўскага, з даручэньня ген. фон Готбэрга, займаліся Архіепіскап Філафей, фактычны кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, і праваслаўнае менскае духавенства на каталіцкіх Кальварыйскіх могілках. Іваноўскі быў пахаваны ў клюмбе кветак перад уваходам у касьцёл. Гэтая штучная ўрачыстасьць выклікала ў мянчанаў уражаньне, што гэтак фактычныя забойцы стараюцца, як каужць, замесьці сьляды свайго злачынства.

3) І наапошку яшчэ адна дэталь з паховінаў. З усіх прамоўцаў на асаблівую ўвагу заслугоўвала прамова др. Франука Грышкевіча, ведамага ранейшага камуністычнага дзеяча ў Заходняй Беларусі, які прыбыў на паховіны зь віленскай дэлегацыяй. Др. Ф. Грышкевіч высака ацаніў лібэральнае стаўленьне нябожчыка да людзей у цяжкіх абставінах вайны, катэгарычна запярэчваў удзел бальшавікоў у забойстве прафэсара. Прыгожа сказаная прамова Ф. Грышкевіча была апошняй, і пад ўражаньнем яе ўдзельнікі паховінаў пакінулі могілкі.

**Антон Шукелайць**

### ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ЭТНІЧНЫЯ ПАТРЭБЫ

Губэрнатар штату Мэрыленду сп. Гары Гюз увёў інж. Васіля Мельяновіча ў склад Этнічнае Дарадчае Рады Штату Мэрыленду. Заданьне Рады — інфармаваць губэрнатара аб дзейнасьці, патрэбах і праблемах этнічных арганізацыяў штату.

### КАЛЯНДАР „БЕЛАРУСА"

Калі хто з падпішчыкаў „Беларуса" не дастаў разам са студзенскім нумарам газэты „Календара палітычна-культурных угодкаў на 1985 год", просім паведаміць аб гэтым Рэдакцыі або нашаму мясцоваму прадстаўніку, і каляндар будзе дасланы. Сёлетні выпуск календара прысьвечаны Скарынінскаму Году.

Падаём да ведама, што рыхтуецца падобны каляндар на 1986 год. Рэдакцыя просіць усіх прысылаць юбілейныя даты на 1986 год, зь якіх будзе зроблены адбор..

### ЦІ ВЫЙДЗЕ КАЛЯНДАР „НІВЫ"?

Выдавецтва газэты „Ніва" ў Беластоку штагоду выдае свой каляндар у форме кнігі. Сёлета аднак, паводле вестак зь Беласточчыны, выхад календара „Нівы" быў затрыманы польскаю цэнзураю дзеля нейкіх засьцярогаў да пяцёх артыкулаў, што былі заплянаваны для выданьня. Звычайна, у календарох „Нівы" артыкулы зьмяшчаюцца на тэмы беларускае гісторыі й культуры. За ўсе гады выхаду беластоцкага календара гэта першы раз, што каляндар не зьявіўся на час дзеля цэнзурных перашкодаў.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**Падпіска й ахвяры, перасланыя беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. і Л. Беленіс | $ 100.00 |
| 2. | Э. Жызьнеўская | 100.00 |
| 3. | В. і М. Махнач | 50.00 |
| 4. | Парафія Сьв. Духа БАЦП у Іст Дэтройце | 50.00 |
| 5. | У. Бакуновіч | 50.00 |
| 6. | М. Кіпель | 40.00 |
| 7. | Н. Мароз | 30.00 |
| 8. | В. Пунтус | 30.00 |
| 9. | А. Я. | 30.00 |
| 10. | І. Ільчук | 30.00 |
| 11. | М. Дубоўскі | 30.00 |
| 12. | К. Калоша | 30.00 |
| 13. | М. Казьлякоўскі | 30.00 |
| 14. | К. і М. Варабей | 30.00 |
| 15. | М. Шчорс | 25.00 |
| 16. | С. Шабовіч | 25.00 |
| 17. | У. Ракуць | 25.00 |
| 18. | В. Арэхва | 25.00 |
| 19. | Я. Азарка | 20.00 |
| 20. | М. Чупракоў | 20.00 |
| 21. | П. Міраноіч | 20.00 |
| 22. | Н. Жызьнеўскі | 20.00 |
| 23. | П. Ракуць | 20.00 |
| 24. | С. Кісель | 20.00 |
| 25. | М. Грэбень | 20.00 |
| 26. | Г. П. | 20.00 |
| 27. | Ю. Касьцюкевіч | 20.00 |
| 28. | Стаўпецкі | 20.00 |
| 29. | З. Смаршчок | 20.00 |
| 30. | П. Ермін | 20.00 |
| 31. | З. Станкевіч | 20.00 |
| 32. | Ю. Андрусышына | 15.00 |
| 33. | А. Мацукевіч | 15.00 |
| 34. | Я. Юхнавец | 15.00 |
| 35. | М. Грынчук | 12.00 |
| 36. | В. Ярашэвіч | 10.00 |
| 37. | В. Рамук | 10.00 |
| 38. | Я. Кахаdоўская | 10.00 |
| 39. | Арх. Я. Строк | 10.00 |
| 40. | Ч. Найдзюк | 5.00 |
| 41. | Ю.. Рэпэцкі | 4.00 |
| 42. | Арх. Я. Строк | 15.00 |
| 43. | Рада БНР (заміж кветак на магілу с.п. а. А. Смаршчка | 100.00 |
| | За каляндныя прывіт.: | |
| 44. | Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 45. | Я. Каханоўская | 10.00 |
| 46. | А. Шукелайць | 10.00 |

**Разам: $1241.00**

### АЎСТРАЛІЯ

**Падпіска й ахвяры праз нашага прадстаўніка сп. М. Нікана:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Груша | 48.00 |
| 2. | М. Скабей | 48.00 |
| 3. | Г. Шайпак | 40.00 |
| 4. | М. Кулага | 30.00 |
| 5. | М. Нікан | 24.00 |
| 6. | З. Кадняк | 20.00 |
| 7. | У. Сідлярэвіч | 20.00 |
| 8. | В. Каралюк | 20.00 |
| 9. | А. Кукель | 20.00 |
| 10. | Ф. Лашук | 20.00 |
| 11. | М. Шэка | 22.00 |
| 12. | П. Гуз | 22.00 |
| 13. | А. Калодка | 21.00 |
| 14. | Л. Яцкевіч | 21.00 |
| 15. | М. Еўневіч | 21.00 |
| 16. | Грынько | 21.00 |
| 17. | М. Швэд | 20.00 |
| 18. | У. Ванецёнак | 20.00 |
| 19. | У. Яшчанка | 16.00 |
| 20. | М. Субач | 16.00 |
| 21. | Я. Стасевіч | 17.00 |
| | За паасобныя нумары газэты | 28.00 |

**Разам: аўстр. дал. 435.00**

**Ахвяры замест вянка на сьвежую магілу сьв. пам. Парфірыя Трысмакова:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Лужынскі М. | $ 40.00 |
| 2. | Скабей М. | 40.00 |
| 3. | Цітовіч М. | 30.00 |
| 4. | Шайпак Г. | 20.00 |
| 5. | Нікан М.. | 20.00 |
| 6. | Ролсан Я. | 20.00 |
| 7. | Груша А. | 20.00 |
| 8. | Бурнос М. | 20.00 |
| 9. | Станкевіч К. | 20.00 |
| 10. | Стасевіч Я. | 20.00 |
| 11. | Окавіты У. | 20.00 |
| 12. | Мароз А. | 20.00 |
| 13. | Антух М. | 20.00 |
| 14. | Гавенчык Я. | 20.00 |
| 15. | Кавалеўскі М. | 20.00 |
| 16. | Зеляневўскі В. | 20.00 |
| 17. | Кушнір Ё. | 20.00 |
| 18. | Краўчанка Н. | 20.00 |
| 19. | Журомскі Л. | 20.00 |
| 20. | Пачопка П. | 20.00 |
| 21. | Заруцкі | 20.00 |
| 22. | Кубрак М. | 20.00 |
| 23. | Петроў | 20.00 |
| 24. | Плаккст А. | 20.00 |
| 25. | Хадуноў Т. | 20.00 |
| 26. | Кенэр Л. | 20.00 |
| 27. | Голубеў В. | 20.00 |
| 28. | Кастышын М. | 12.00 |
| 29. | Васілеўскі | 11.00 |
| 30. | Шэка М. | 10.00 |
| 31 | Сітнік А. | 10.00 |
| 32. | Хаванская А. | 10.00 |
| 33. | Якша П. | 10.00 |
| 34. | Яновіч В. | 10.00 |
| 35. | Калесьніковіч У. | 10.00 |
| 36. | Кандрусік М. | 10.00 |
| 37. | Русак В. | 10.00 |
| 38. | Сухаверка Д. | 10.00 |
| 39. | Сухаверка А. | 10.00 |
| 40. | Чорнагалан А. | 10.00 |
| 41. | Аршанскі | 10.00 |
| 42 | Багдановіч | 10.00 |
| 43. | Міленцэвіч В. | 10.00 |
| 44. | Булыга | 10.00 |
| 45. | Чычэліс Э. | 5.00 |
| 46. | Сідлярэвіч У. | 5.00 |
| 47. | Марчанка В. | 5.00 |
| 48. | Паўкоўская | 5.00 |
| 49. | Юрша Е. | 5.00 |
| 50. | Бакуновіч А. | 5.00 |
| 51. | Дзітман В. | 5.00 |
| 52. | Шамшурын У. | 5.00 |
| 53. | Ранцэвін К. | 5.00 |
| 54. | Яўневіч М. | 4.00 |
| 55. | Сікорская | 4.00 |
| 56. | Ласюк Я. | 4.00 |
| 57. | Галіч | 4.00 |
| 58. | Карпук | 4.00 |
| 59. | Слесарэвіч О. | 4.00 |
| 60. | Ціхан М. | 4.00 |
| 61. | Дзівак І. | 4.00 |
| 62. | Шацько М. | 3.00 |
| 63. | Бічанін В. | 3.00 |
| 64. | Говар І. | 2.00 |
| 65. | Жаваранак У. | 2.00 |
| 66. | Зянькевіч М. | 2.00 |
| 67. | Скавіцкі | 2.00 |
| 68. | Тамашэўскі О. | 2.00 |
| 69. | Палюховіч Я. | 2.00 |
| 70. | Корзун А. | 2.00 |
| 71. | Левановіч В. | 2.00 |
| 72. | Шараевіч Н. | 2.00 |
| 73. | Булаўскі | 1.00 |

**Разам: аўстр. дал. 865.00**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | О. Качан | ам. д. 50.00 |
| 2. | М. Зуй | аўстр. д. 50.00 |
| 3. | М. Нікан | аўстр. д. 40.00 |

### КАНАДА

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Акула | $ 29.48 |
| 2. | Э. Пітушка | 25.00 |
| 3. | М. Пракопчык | 20.00 |
| 4. | Б. Кірка | 19.48 |
| 5. | Б. Кірка (за клішу) | 10.00 |
| 6. | А. Протас | 12.00 |
| 7. | Ю. Рэпэцкі | 12.00 |

**Разам: $ 127.96**

### АНГЕЛЬШЧЫНА

Н. Якубовіч 12.00

### НЯМЕЧЧЫНА

Б. Кіт 100.00

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

Ахвяры склалі:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | С. і О. Нарушэвічы | $ 500.00 |
| 2. | М. Наумовіч | 50.00 |
| 3. | Н. Орэа | 100.00 |
| 4. | О. Качан (у памяць А. Качана і В. Качан) | 50.00 |
| 5. | Я. А. | 20.00 |

**Разам: $ 720.00**

### ДА ЎСІХ У НЬЮ ДЖЭРЗЫ

Пачынаючы ад гэтага нумару, усе падпішчыкі ў Нью Джэрзы будуць дастаўляць „Беларуса" ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча ды зь ім павінны й разьлічвацца, выпісваючы чэкі на ягонае прозьвішча:

Mr. B. Danilovich
303 Howard Street
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя „Беларуса"**

### АБВЕСТКА

Запрашаем усіх слухаць рэлігійную радыёпраграму „Добрая вестка" ў беларускай мове з наступных дзьвюх каратка-хвалевых станцыяў:

1. Станцыя „Голас дружбы", KGEI, Сан Францыска, Каліфорнія, Час перадаваньня: паводле Грынвіча — пятніцамі а гадз. 04:30 — 04:45 (паводля мясцовага лёсанджэлескага час — гэта чацьвяргамі а гадз. 20:30 — 20:45). Хваля перадаваньняь 41 мэтар. У лістападзе 1984 г. перадача „Добрая вестка" пачнецца перадавацца із станцыі „Голас дружбы" на паўгадзіны пазьней і на хвалі 25 мэтраў.

2. Станцыя „Транс Сусьветнае Радыё", Монтэ Карлё. Час перадаваньня: паводля Грынвіча — панядзелкамі а гадз. 18:20 — 18:35. Хваля перадаваньня: 25 мэтраў. Пачынаючы ад 5-га лістапада, перадача „Добрая вестка" будзе перадавацца із станцыі „Транс Сусьветнае Радыё" ў тым самым часе, але на хвалі 41 мэтар.

